ПАЭЗІЯ — АЙЧЫНА...
І НАЙПЕРШ -
ПРАШУ, ЯК І СПРАДВЕЧНУЮ
ПРЫРОДУ,
УЗНЁСЛУЮ АСВЕТЛЕНАСЦЬ МУРОЎ —
РАСЦІ, МОЙ ВЕРШ,
УПОРАВЕНЬ З НАРОДАМ;
РАСЦІ, НАРОД МОЙ,
У СЯМ'І СЯБРОЎ!

# БАРАВЫ ВЕКАПОМНЫ ЗВОН

І ВОБЛАКІ - У ВЫРАЙ. У ГАЯХ НА СЦЕЖКАХ
І У ЗГЛУХЛЫХ КАТУХАХ - КРАМЯНА. ГАРЧЭЕ
ВОСЕНЬ. А У МАІХ ГАДАХ - АСВЕТНА, ЗДОЛЕНА, ЛІСЦВЯНА.
ТАКІ ШЫРОКІ, ГЭТКІ СМЕЛЫ СВЕТ - НА ТЫСЯЧЫ
НАСТУПНЫХ ЗІМ І ЛЕТ. НАДЗІЎНА ВЕРУ:
ПРОЙДУЦЬ ЛЮДЗІ, ЗНІКНЕ НАВАТ СЛЕД, А ВЫРАЙ,
ГАЙ...- НАВЕЧНА БУДЗЕ, БУДЗЕ!

## У ВЕРАСОВАЙ СТАРОНЦЫ

Гэта песня — з-пад вясёлага крыла
у старонку верасовую вяла,
дзе духмяныя паляны,
жураўліныя ключы...
І прасіла мяне рэха:
— Не крычы...

Цішыню прасіла рэха зберагчы.
Гэта песня — з-пад вясёлага крыла
у старонку верасовую звяла:
дзе духмяныя паляны,
жураўліныя ключы...
Родны бору, на хвілінку памаўчым:
супакоілася рэха на плячы.

Я трымаю на пагонах цішыню.
Я тваёй надзеі, бору, не зману.
І духмяныя паляны,
і святло чырвоных зор —
сцеражэ мой насцярожаны дазор.

## ЭСТАФЕТА АГНЮ

Вясну прыносяць на зямлю не ветры,
і не крыло шпака ці жаўрука,—
Айчыны адухоўленыя нетры
і сонца валадарная рука!
Той сонечны агонь
                                        нам зберагчы,
прыняць агню жывую эстафету...
Бо мы — вясны ратоўныя ключы,
мы — літары зямнога запавету.
А хай аблокаў лёт наіўна-плаўны,
няхай гадоў
здзяйсненням нестае,—
прыйшла вясна — і завярае планы
зямлі,
Радзімы,
вашы і мае.

## ТРЫЦЦАТАЙ ВЯСНЕ ПЕРАМОГІ

Ціхі ранак уздымае крылы —
і бліжэе берагу брыво...
Просяцца майго прадвесня крыгі
прама ў словы песні баравой.
Ты жыла і ў сэрцы, і ў надзеі,
з бруствераў зрывалася ты ў бой..
Перамога наша маладзее,
наша перамога маладзее
толькі ад таго, што мы з табой.
Песня, што жыве ў стагах і копах
ля суровых змоўклых курганоў,—
тое лета, што ўзышло з акопаў,
ззывае сёлета наноў.
Кліча пад асветленую зорку,
дзе імёны золатам гараць...
Можа, й будзе на душы агоркла,
толькі як жа песні не сказаць:
— Ты жыла і ў сэрцы, і ў надзеі,
з бруствераў зрывалася ты ў бой...
Перамога наша маладзее,
наша перамога маладзее
толькі ад таго, што мы з табой,
Песня!

## З АДДАНАЙ КАГОРТЫ

Было такое: бой і перамога,
ахвяры (а было іх многа)...
Таму ўва мне, нібыта ў спарыша,
жыве
            таго чацвёртага
                                                душа.
Уратаваў яе ад нематы:
хай ведае праз успамінак даўкі,—
сышлі расстрэлы,
                                    вісельні,
                                                аўчаркі,
і нашыя сцяной стаяць рады!

**ПАМЯЦЬ**

I
Стаяла войска
у гатоўцы
ля нашай
ціхае мяжы.

II
Стаяла маці
у ватоўцы.
Навокал —
чорныя крыжы.

III
О, час,
ты памяць не крышы
пра тыя межы
і крыжы.

## ХВІЛІНА ЎСПОМНЕННЯ

Ён не спадае, меч дамоклаў,
а насцярожана вісіць...
Ды ад натугі аж намокла
яго слабеючая ніць.
Пад страхам — думы,
                              словы,
                                          сэрцы
і невыноснае быццё.
Смялейшы выдых — абарвецца
жыццё...
...Ды бацька йшоў у бой за сынам:
святая помста іх вяла...
І партызанская краіна
непераможнаю —
жыла!

## ГЭЙ, КОНЮ!

Гэй, коню, мой коню,
зайграй пада мною!
На нашыя гоні
хадзілі вайною.
А што зваявалі?
Сцяною мы сталі,
нас не выдавалі
ні высі, ні далі...
З часіны той весняй
складаюцца песні
пра волатаў бою
за долю, за волю.
Мы песні пранеслі
па ўзбуджаным лесе,
а іх перанялі
і высі, і далі.
І ўспомнілі гоні
атакі, пагоні...
Гэй, коню, мой коню,
зайграй пада мною.

## ДЗВЕ СЦЯЖЫНЫ

Там, за борам,—
дзве сцяжыны:
дальняя і бліжняя.
Дзве бяды
прыйшлі адразу:
і адна з іх —
лішняя.
Там, за борам,
спее жыта...
Толькі рэха вызнае,
па якой была сцяжыне
песня долі выслана:
бо запознена прыходзіць
і да сэрца туліцца.
Мне б заместа дзвюх дарожак
ды адна, як вуліца.
Толькі ж можна размінуцца
з роспачнаю чаіцай...
А за борам дзве сцяжыны
разам пачынаюцца.

## ВЯРТАННЕ ПАМЯЦІ

Роднае неба, лётчыка —
сына свайго выручай...
Будзе яго Алёначка
плакаць каля ручча.
Ёй бы рукамі-крыламі
выправіць той самалёт.
Толькі машына склыгнула
znічкай пад лёд.
Не зацвілі гаротныя
два берагі...
Чулі ўдовай дарогаю:
— Мой дарагі!..
Можа, што я кахала так,
клікала так цябе,—
дні веснавыя
у халадах,
у журбе.
З выраю памяць вяртаецца
наперакор імжы...
Вунь над зямлёю чаіца
у віражы.

## ПАВЯСЕННІ МЕСЯЦ

Чароўны чэрвень, месяц павясенні!
Духмяныя і берагі, і вёслы,
і сені,
гэты стол мой нечыноўны...
Хай поле тваё родзіць вечна
і помніць агнявейнае Купалле,
і лечыць
нас і працаю, і воляй.
І будзе жыць у нас любоў і сонца
насуперак бяздум'ю і бядзе,
і стронцыю,
і злосці, і пакуце...
Таму і веру, веру, мой лагода,
што не звядзецца хлеб у чалавека,
а слава і бяссмерце — у народа.

## ВЫШЫНЯ НЕБА

Здалося неба залатой сяўнёй.
Такое я не бачыў годы.
На свеце сёння гэтулькі народаў —
і толькі гэта неба над зямлёй.

Ступіў і я пад велічны шацёр.
Вунь — зоранька мая, вунь - аблачына..
І гэта усё — высокая Айчына,
і гэта ўсё — нязломнае жыццё.

Хай неба служыць вечнаму агню
з вясёлкамі крутымі, з перунамі...
Хай неба мерыць вышыню над намі,
хай неба мерыць нашу вышыню.

## АЙЧЫНЕ

Заціхлі ахаладжаныя ветры,
і ў чарадзе задзіўленай
гадоў
на нас глядзяць Твае зямныя нетры
вачыма адухоўленых садоў.
Адкуль яно, такое пранікненне
раптоўнай сілы і нястрымных мар?
З якога пакалення
нам
карэнне
на кроны
белы вынесла пажар,
што кожная галінка — вочы ў вочы
глядзіць на нас і асвятляе сад...
Чый гэта галубіны, несурочы,
вясёлы, абнадзееня пагляд?
Даверлівая, верная Айчына!
З-пад крон бароў,
купалкавых вянкоў
Тваімі шчырымі гляджу вачыма
з прадоння пакаленняў і вякоў...
І, прадаўжаючы Твой свет і вырай,
я паўтараю нетры і вясну...
Адсюль ужо ніхто мяне не вырве,
як вецер — ачужэлую сасну.

* * *

Кожны дзень у жыцці —
гэта слаўнае «сёння»:
над палямі вясёлка,
сена, зялёныя сёлы...
Кожны дзень у жыцці —
гэта ясная вера:
не старэем, сябры,
мы яшчэ не старэем!
Недарэмна жывём:
кожны дзень
ён — рабочы.
Недарэмна цвітуць
нашы светлыя вочы.
Мы багаты на ўсё:
ёсць і сум, і расстанне,
ёсць і радасць, і боль,
і адзінае сэрца каханне.
І хай чорная ноч,
халаднеючая,
не дрэмле,—
недарэмна па свеце
мы праходзім, сябры,
недарэмна!

## НА ПАЎДНЁВА-АФРЫКАНСКУЮ ТЭМУ

«Усе людзі — за кратамі».
Так памроілася нейкай дурненькай
малпе ў звярынцы.
Але ж — пабудзьце на яе месцы,
і вам не такое выдасца.
Асабліва калі прыйдзецца
толькі сядзець,
толькі думаць
і толькі маўчаць.
Нямала людзей спрабавала
маляваць калючы дрот
пад блакітна-вятрыскавы колер волі.
Многія стукаліся ілбамі
ў нягнуткія рэйкі прыгнёту...
Там і дагэтуль краты крыжуюць жыццё,
і калючы дрот толькі зачынае вызвоньваць
грозныя песні свабоды.

**ТАК ІСНА ЧУЮ...**

Зямлі нячуйная падзея —
сцягоў зялёных узнясенне.

...І я, мой край, тваё насенне,
твая надзея.
Шчаслівы я на гэтым свеце,
што нашы долі разам ходзяць...
Зямля — святая
ў тым, што родзіць,
дае бяссмерце.
Вядзе разор непаразыўны —
каб ад расінкі — аж да вусця!

...Такісна чую, кім завуся,
каму я сынам.

## НА КРУТЫМ ПАВАРОЦЕ

Я плыву да асенняй мяжы,
я жыву на крутым паварОце...
Ватэрлінію дрэў на шашы
перайшло лісцвяное разводдзе.
Столькі год ці вякоў я шукаў
запаветнае роднае слова...
А калі б да цябе не дапаў,—
ты мяне. б адшукала, мова!
На далонях у светлай Радзімы
я плыву да асенняй мяжы.
І далёка ён, мой зазімак...
Шчасны дзень, ты мяне ўберажы!
Я плыву да асенняй мяжы,
я жыву на крутым паварОце.
Ватэрлінію дрэў на шашы
перайшло лісцвяное разводдзе.

## І ЗДОЎЖЫЦЦА ЖЫЦЦЁ

Нам продкі аддалі
палі,
бары,
каб мы былі
гаспадарамі
самі...
І слухаюць пажоўклымі лістамі,
якія весці ім нясуць вятры:
ці добра нам,
ці страшымся зімы,
ці верныя праверанаму слову;
чаго ў нас больш:
харошага, ці злога;
якія ёсць,
якімі будзем мы...
Страсае восень
з гонкіх дрэў лісцё
на курганы звячэлыя,
нямыя...
Звясенняцца галіны маладыя
і маладое здоўжыцца жыццё.

## НАРАЧАНСКАЕ ПАДАРОЖЖА

Не прасілася песня нанач,
не шукала яна прытулку...
Абарвалася сцежка...
Нарач
не пляскоча, а б'ецца гулка.
Адыходзяць,
                    як хвалі,
                              людзі...
І на беразе застаецца
перавітае болем сэрца,
што ўсялялася Вам у грудзі.
Медунічнаму Мядзелу
                                        золка.
Парадзела туманы ходзяць,
дзе хадзілі і Вы,
М я д з ё л к а ,
у ласкавай сваёй прыгодзе.
Пасівелыя Вашы годы
мелі столькі любові,
веры!
Будзем слухаць
                    азёрны подых...
Будзем слухаць,
                    што шэпча верас...
Нарачанскае падарожжа:
столькі песень
і столькі граю!
Незабыўныя сцежкі краю
і сівец
заглушыць не зможа.

**З-ПАД АСНЕЖАНЫХ КРОН**

Прыйшоў на платформу прыгарадны
з-пад аснежаных крон.
Людзі вясёлыя, прыткія
узгаманілі перон.
Словы жывыя, вясковыя,
смачныя, нараспеў...
Можа, каму — аскоміна,
а я ачужэць не паспеў...
Гаворыць жанчына хоршанька,
як хлеб учыняе, думна.
Слова, дзе трэба,—
коршакам,
дзе трэба — як на мяду.
Слова снягі не асцюжаюць
і не астрашаць зімой.
...Вясновае,
жытняе,
дужае —
працяг зарунелы мой...

## ПЕРШАМУ ШПАКУ

Ах, перасмешнік, прасвістаў бы мне…
Ты ля сваёй шпакоўні або не?
Ці, можа, па закону пералёту —
хто першы, таму й слава па вясне?

Ды ўсё ж адзін закон і я спасціг:
не твой і сад, і дзень, калі — заціх
і песняю ты не азначыў іх,
не ўбараніў для сонечнага ўзлёту.

* * *

Ці ўспомнілі мяне вы, ручаі?
Не з вамі я імчаўся на абгонкі?
Вы збеглі.
                              Прыляцелі салаўі...
Патух і салаўіны вечар звонкі.
Перацвіло, зляцела столькі дзён!
Спагублена ўжо
столькі слоў і песень...
Не ведаю, а ці кране прадвесень
камлістае ў зазубрынах жыццё?
Але вось зажурчэе ля шашы
ці выскачыць на адагрэў пралеска,
і нешта пераломіцца ў душы:
прагнецца мо якая там правеска...
І назаўжды спаверыцца: жыве
не зломленае і у паняверцы
вясна мая — ў крыніцы, у траве...
Іх сіла — у маёй крыві, у сэрцы.

## НЕЧАКАНЫ СНЕГАПАД

Снегапад: нечаканы, густы.
І заранку вясны прытушыла.
Навіну і сарокі з крушыны
не паспелі падняць на хвасты.

Аглушыў снегапад «Жыгулі»
і трывожна мігцяць светафоры.
Гарадок зноў у зімнім уборы,
схаладнела заціхлі палі.

І ні радасці свежага дня,
ні ўрачыстай, ні светлай падумкі:
на дрымучыя снегу падушкі
пераглухла лягла цішыня.

Я шчыльней захінаю каўнер,
і брылёк апускаю ўсё ніжай…
Снегапад ачмурэла і хіжа
замятае вясновы давер.

І хоць непагадзі не азмрочыць
на зямлі красавіцкай агні,—
але на табе: голаў прыгні,
апусці перад замеццю вочы.

## З-ПАД КРЫЛА ДУШЫ

І наша мова — з-пад крыла душы.
Гаворыш — песню слоў не прыглушы!
Любое слова — ветразевы ўзлёт.
Народ — музыка, нескончоны род!
Ішоў па слова у балючы свет
народ — не заваёўнік, а Паэт,
ён на заломах выклятых дарог,
як працу — песню і душу бярог.
І стала слова памяццю вякоў,
і сілай, і замовай ад акоў...
І калі ў слове замірае звон —
у нашы душы ападае ён:
крывадарожна і трывожна йсці...
Згубіць — не мудра.
Ўдзячліва — знайсці.

## ІЛЬНЯНАЯ АСНОВА

У кужэльнай кашулі —
як даўнейшы мужык —
я звычайна няспешны
і прасторна дужы.
Нашы рупныя ткаллі
ў палатно навялі
ільняную аснову
роду, племя, зямлі...
І я ў моднай кашулі
уяўляю на міг
несканчоную нітку
аж да продкаў маіх,
дзе пяшчота народа
перайшла на раллю,
а не для Каліноўскага
на глухую пятлю;
не на пугі і путы,
а ў надзею вясны...
І цвітуць, як світанні,
маладыя ільны!
І заткуцца палотны
у натхнёны пасед —
на кашулі для ўнукаў,
на абрус для бясед.
У наш век усяможны,
у жалезныя дні —
улягаецца нітка
ільняной дабрыні.
І не сорам прызнацца,
што з адвечнай пары
мы — трывалыя людзі,
і з душой — без кастры,

## ТРАНСМАЦЕРЫКОВЫ ПЕРАЛЁТ

***I. У чаканні аб'яўлення пасадкі***

Туман, туман...
І мы «закукавалі».
Трымае без надзей аэрапорт.
Гляджу:
хто сон залічвае ўжо ў спорт —
галовамі дрымуча заківалі.
Ў дынаміку прарвецца палатно
ды голас раўнадушна адзавецца...
І ўсё, чым жыў, туманам абаўецца,
бяскрылае, апусціцца на дно.
А хто б гэта перадаў у аэрапорт назначэння,
што мой самалёт
па метэаўмовах затрымліваецца
на невядомы час?

***II. Над узлётнай паласой***

— Праб'емся, сцюардэса?
— Пераляцім, пілот?
— А з Мінска да Адэсы
дацягне самалёт?
Я ў чэраве пукатым
засеў не проста так!
...І ўжо як на пуантах
трохногі наш лятак.
Мы песні перапелі,
пакуль далі нам старт.
— Цягні, цягні, прапелер:
такі ў цябе ўжо дар!
І мы, як самалёты,—
насуперак вятрам.
Гады, як пералёты,
сціраюць крылы нам.
Пакуль «матор» працуе,
трапечацца душа,—
разгонімся й ныркуем
у сіні вір Каўша.
Слабее прыцягненне,
калі праз хмараў тлум

хоць на адно імгненне
ўзнясуцца крылы дум.

***III. На курс***

Думы мае, замаўчыце!
Урасіць бы насенне росамі
хай прарастае ў жыццё
мова золатагалосая.
Хай на калоссях промняў
спеюць зярняты слоў...
Не патане
у проламе
крыло —
самалёта вясло!

***IV. З усмешкай ля ілюмінатара***

Май меў сваё аблічча:
галёкала, гуло...
І што было — не злічыш,
а болей — не было...
Ні фальшу, ні зняверу,
што спогала б гняло...
Прыдумалі прапелер —
было ж і памяло.

***V. Палётная дылогія***

Слова да слова — спатканне.
Спатканне і слова — знаёмства.
Знаёмства і слова — дружба.
Дружба і слова — каханне.

***VI. Звяртанне да Мацерыка***

Мілы ты мой Мацярык!
Маці крык
адчайны
каб не крывіла змова,—
я й да цябе прылучаю
слова,
каб жыў і квітнеў на дзіва,
слова сваё:
«Радзіма».

***VII. На пералёце***
Арфа дажджу
грае развітальныя песні жніўня.
Яблыкам познім коціцца сонца
па атаве сусвету.
І спадае ў крутаяр Галактыкі.
За ілюмінатарам думныя аблокі
расчэсваюць сівізну.
Паветраны лайнер увінчваецца ў неба.
І толькі людзі на Мацерыку
яшчэ чуюць
развітальныя песні жніўня.
І яны бачаць, як вясёлка
сяміжыльным кабелем
злучае
          узлёт-
                    ныя
          палосы
                    далёкіх
                              аэра-
                                        партоў.

***VIII. Круг на пасадку***
Сонца прапала.
Прыпаў на крыло самалёт.
Як бацяновыя ногі — ў тумане шасі.
Паралятаем могілкі.
Вось і бетонныя пліты.
Сціхлі вінты.
Стукнуўся трап.
Зазямлілі пусты самалёт.
І зноў мы — зямляне,
хоць і палёт наш — транзітны.

# 2
# ПАВАГІ
# І ЛЮБОВІ
# АДРАСЫ

ПРЫПАХЛА І ЯШЧЭ АДНА СТРУНА. ПРЫМОЎКЛА ВОСЕНЬ. У КРАЙ ЧАКАНЫ, ДЗЕ МОЙ БОР, ДЗВІНА , - ІДУ Я У ГОСЦІ: АД ВАС - МАЁ КАРЭННЕ І СВЯТЛО. І ПЕРШЫ ВЫРАЙ... ШТО ПРАЗ ДУШУ І СЭРЦА ПРАРАСЛО-УЖО НЕ ВЫРВЕШ. ВЯРТАЮСЯ. О, ЗОЛКАЯ ТРАВА - ЗЯМЛІ НАЎЛЕЧКА... АРЫСЯ, ГАЙ! КРУЖЫСЯ, ГАЛАВА! КРЫНІЧСЯ, РЭЧКА!
МУЖНЕЙ, НАЙШЧАСЛІВЕЙШЫ ДАР – ЛЮБОВІ ПАМЯЦЬ! ЦЯПЕР І САМЫ ВІХРАВЫ ПАЖАР МАСТЫ НЕ СПАЛІЦЬ.

**ФРАНТАВЫЯ ГОДЫ**

*Дзядзьку Віктару з вёскі Дубаві*
*Мёрскага раёна*

Франтавыя годы: год за тры.
Палічыце, колькі ваявалі!
Ад зары чырвонай да зары
перамогу ў полымі кавалі.

Не забудзем славы год цяжкіх.
За свабоду баравога краю
выступаў адзін супроць траіх —
і варожая нямела зграя.

І калі зямля з камля гула,
крывянела кожная лагчына,—
сілу патраіць яна змагла,
мілая далёкая Айчына.

І любоў, як тры любві былі...
Сонца, як тры сонцы над акопам,
калі мы, ўзмужнелыя, ішлі
з гарадоў уквечанай Еўропы.

Сёння знаюць нас напералік.
І ў рабоце, і ў гасціне званай
самы першы — гэта франтавік,
што агнём траістым гартаваны.

Эх, баец, а што ні гавары,—
не змянілі б мы ні на якія
франтавыя годы: год за тры...
І жыццё — на тры жыцці другія!

## ПАМЯЦІ ІОСІФА КАМІНСКАГА

А дзе той каваль жыве,
што каваў падковы?
Над Хатынню — май плыве,
поўдзень верасовы...
Вось яшчэ адна зіма.
Холадна і гола...
І Апошняга няма,
хто падаў бы голас.
Апаліў яго агонь
чадных успамінаў,
збранзавелая далонь,
крык застыглы сынаў...
...Снег сыходзіў без пары,
захлынаўся болем.
Вёска...
Дзе яна ў бары?
Учарнела поле.
Спапялелыя двары.
І званы, як поўні.
Пра бяду нам гаварыў...
Звон цяпер напомніць...
Вынес з пекла — і за нас —
незабыўнасць нашу,
толькі помнілі б мы Час
і гаркоты Чашу...

**МАЦІ**

*Ох жа, цёмная ночка,*
*заслані ты яго —*
*у далёкай дарозе*
*ды сыночка майго!*

На ваяцкай дарозе, дзе прывалаў агні,
саграваюся, мама, ля тваёй цеплыні.

У вайсковыя годы, дзе трывожныя дні,
засынаю я, мама, ля тваёй цішыні.

Ад бяды і няшчасця, што крыло салаўя,
і мяне засланяе толькі вера твая.

Запаветнага слова ад цябе не ўтаю —
прытуляю да сэрца я надзею тваю,

тваю цёмную ночку, твае светлыя сны,
не забытую мной калыханку сасны...

У дазор мне ісці. А як звон зазвініць —
мая Брэсцкая крэпасць за туманам стаіць.

## ПАМЯЦІ ПАБЛА НЕРУДЫ

Даўжэй жывіце, добрыя паэты,
паэты з усяе маёй планеты!
Ну дзе той бог,
каб напрасіць вам гадаў?
...Над жвіру нематой —
адчаю голуб.
У чорных рамках журацца партрэты:
нас пакідаюць песні і паэты.
Мо дапамогуць Страцім ці Мерані:
калі...
то смерцю ўласнай паміралі б.
Няхай ваш кліч гучыць, як запавет,
і верай поўніць пабрацімаў рацць...
З усіх зямных правоў, што знае свет,
паэт не мае права — паміраць.

## ВЕЧНАЕ СІНЯЕ НЕБА

*Максіму Багдановічу*

Паганцы малілі бога свайго —
Вечнае
Сіняе
Неба...
...Вечнае сіняе неба!
Сёння глядзіць на яго
памяць мая, Паэце.
Ты ў сэрцы сваім спяліў
золак роднага слова
і застаўся ў шчаслівых днях
ВЕЧНЫМ
І СІНІМ
НЕБАМ.

## ЁСЦЬ НОЧ АДНА

*Памяці Федэрыка Гарсія Лоркі*

Ёсць ноч адна,
на цэлы век адна...
Збіраюцца ў такую ноч паэты:
забітыя,
забытыя,
катамі
замучаныя,
са светам кратамі
разлучаныя,
неапраўданыя,
да дня растраляныя,
прададзеныя,
у салдаты здадзеныя...
Прыходзяць —
і месца сваё ў нашых сэрцах
знаходзяць...

## ЗАСТАНУСЯ ПЕСНЯЙ

Спяваў, а сэрца ў роспачы крычала.
Не за багатай гнаўся я казной:
таму ў мяне ні лодкі,
ні прычала,
і ветразь дагарае за спіной.
І вёсны,
леты,
восені
і зімы —
адзіныя суродзічы мае...
Ды не гарую, бо душа з усімі
спагадлівымі душамі пяе.
Звужаюцца цясней
гадоў кругі
вакол камля надзей
у весняй скрусе...
І хай я толькі песняй застануся,
якую не стрымалі берагі.

## І ПРАРАСЛО ІМЯ

Сышлі
зімы запозненыя льдзіны.
І прарасло імя праз чорны снег...
Ён быў паэтам
і грамадзянінам
у нашай апрытомненай вясне.
Баец прайшоў
шляхі крутога гарту,
быў ленінцам у самы трудны час...
І сёння аглядае Цішка Гартны
дзяржаву, ўзгадаваную для нас.

**БЯСЕДА**

Сядай за стол, харошы госць,
і вечар мы раздзелім.
Успомнім, хто на свеце ёсць
без сябра і надзеі.
Мо стане для адных лягчэй,
а для другіх — спакойней...
З табой выносімся з начэй
на марах, як на конях.
Мы помнім дарагіх людзей
і верым нацвяроза:
няма для дружбы,
для надзей
ні кары,
ні пагрозы.
Хай нам з табой спрыяе час,
хай шле нам радасць
весці!
А можа, ўспомняць і пра нас
на гэтым добрым свеце.

* * *

А памяць, як вандроўніца,
служывая навек...
Матулька, сынародзіца,
святы мой чалавек!
Такімі ўжо дарогамі
твая крывінка йдзе...
А памяць за парогамі
зіма не замяце.
Як і зямлю раздольную,
заўжды цябе — любіць...
Акно, на ласку дольнае,
з глыбінь вякоў гарыць.

## ВОСЕНЬ, ВОГНІШЧА, ПЕСНЯ

*Янку Шпаку*

Восень,
твая
улада —
з камля да шумлівай кронкі.
Спадаюць лісты —
старонкі
з чысленніка лістапада.
Лісты спадаюць у цемру.
Не скора яшчэ заквохча
там цецярук на цяцеру...
Вогнішча — ў сэрцы ночы.
Вогнішча,
твая сіла —
да самага шызага пёрка
з крыла, што купалку ўрасіла
за вязынкаўскім пагоркам.
Вецер.
Трапечацца вецце.
Над горадам залачае.
Песня,
тваё бяссмерце
з радзімаю не разлучае.

## ТАМ, НАД ДЗВІНОЮ

І.
Не прыслала лета
ні зязюлі-прывета,
ні клёна-паклона
над сцежкай.
— Сцешся,— сказала,
пароль назвала
на будучую вясну,
на Дзвіну,
на сасну
паказала.

2.
Золак.
Абрывісты бераг.
Пясок праз карэнне
цярушыцца белы.
Казку сабе я баю.
Золкім прыберагам
тупаю,
як партызан,
у далоні хукаю.

3.
А песня — галёкае,
росіцца.
Каленькі яе
ў пялёстках
рамонкавых
мокрых.
Гэта спрабуе свой голас,
пяе звонка,
як сырадой у доначка,
пад сасной дачушка сасны —
калючанькая
сасоначка.

## СОНЦАЗАХАД НАД МОРАМ

Мы ішлі неспакойным берагам
па краёчку ягоным белым.
І ласкавыя хвалі
нас пераймалі.
А над хвалямі чайкі, чайкі…
Грэбні хваляў звіняць, як чаркі.
Не прыбой — белагрывая горка…

І чаму нам крычалі «горка!»?

## ЧАКАЮЧЫ ЦЯБЕ

Усё глушэй, усё дзічэй
ў глухім калодзежы начэй.
І ні вясла,
і ні уключын...
І думаць — трудна і балюча.

## ЛЯ САМОТНАГА ЦЯПЕЛЬЦА

На агні гарацць ліхая горыч,
жаль і сорам,
грэх былы і боль...
Хай душы
                                пакутліва і горача —
ачышчэнне гэтае
дазволь.
Полымя цяпер і не прытушыш.
І ясней з табою спазнаём,
як да ладу мкнуцца нашы душы
на мяжы між цемрай і агнём.

## З ДОБРЫМ ДАЎНІМ

Пісьмо — глыточак даўкі.
Трывожных слоў сям'я...

«Усё з тым жа добрым даўнім...»
...І свеціцца імя.
І не парвеш на часткі
ні гора, ні пісьма,—
бо ясна, што няшчасце,
бо ясна, што — сама.
І ветах закаціўся...
Але бяда не ў ім,
што кожны з нас аціхся
на беразе сваім.
Даніну плоціць траўням
вясна...
              Рака...
                          Рука —
«ўсё з тым жа добрым даўнім»
апошняга радка.

## ЭКСПРЭСІЯ

Глухая ноч.
Халодная зіма.
Жывыя душы абвінае вецер.
І стала страшна: мо й цябе няма
на гэтым скрыжаваным свеце?
Хутчэй бы золак сіва развіднеў,
ступіў
          па стылым уцямнелым снезе.
Бо як сумёт, чужы калматы гнеў
у сэрца патрывожанае лезе.
Дапамажы мне, любы валадар,
каб не забыцца, не згібець,
не здрадзіць
вясне, Дзвіне...
Во зноў мароз-дудар
дуду завейную на ўзлессі ладзіць.

**КРЫГІ**

Крыгі, крыгі... Адплывайце, крыгі:
за Дзвіною — зноў ласкавы май.
Ён ужо не памятае крыўды,
ты яе таксама не трымай.

Вогнішчы, ці ўсе вы адпалалі?
Полымя, ў начы ці адгуло?..
Многае мы самі не ўтрымалі,
многае з вадою адплыло.

Ведаю, Дзвіна ўжо не такая:
пэўна, абніжэлі берагі...
...Добра, што з балючым гэтым маем
я табе хоць трошкі дарагі.

А другога шчасця й не жадаю,
не схіляю ў скрусе галаву.
Я не растаю, не прападаю —
памяццю відушчаю жыву.

* * *

Выбегла з тралейбуса дзяўчо:
ўмесціліся ў зорачкі
гваздзік —
вечара брунявае плячо,
з дзіўнаю
усмешкай
маладзік.

* * *

Гасцей даўно ўжо не прымаў мой дом.
І хоць тут чыста,—
толькі не ўрачыста
у цішыні знаёмай над чалом.
Чакаюць стол,
                                        і кнігі,
                                                                                і віно,
і сам чакаю крокамі-шчаўчкамі...
Дык хто ж гэта не быў у нас даўно?
А можа, я сустрэчу не ўбярог,
што ні суседзі,
і ніхто на свеце
не захацеў ступіць
на мой парог?

* * *

Расце сынок, гадуецца сынок.
Рунее яснавокі каласок.
Ён пераймае кожны рух і зык:
вастрэе зрок, слухмянее язык.
Ступае на парог жыцця сынок
і мовы
праразаецца расток.

## АЛАВЕРДЫ

Прынясе бяседа стому —
а такой бяды!
Клікну госцю дарагому:
— Друг, алаверды![1]
Што ў мяне было ў запасе,
выказаў, як ёсць.
За сталом — не на папасе,
не лянуйся, госць.
Строга вызначана мера:
калі чэсны ты,
даражы такім даверам:
«Друг, алаверды!»
Значыць, вер:
бяда стрыножыць,
выб'ешся з хады,—
ёсць каму цябе прадоўжыць
і твае гады.
А пакуль яднае повязь:
мы з табой — браты,
наша клятва,
наша споведзь:
— Друг, алаверды!

---

[1] Алаверды (грузінскі — запрашэнне прадоўжыць тост.

## З АДВЕДАННЯ АЗЕРБАЙДЖАНА

Карай без літасці, каран:
я вельмі хітры падарожны.
Пацвердзіць гэта можа кожны,
хто палюбіў Азербайджан.
Спытаў Вагіфа я:
— Ці можна
пад Мінск адвезці Ленкарань?
— Карай без літасці, каран:
ты вельмі хітры падарожны!

## ЗА ВІЛІЮ

Засмужэлая малінка
росы выліла...
Не чакала нас дзяўчынка,
як і Вілія.

— Ці зіма, ці восень
штодня — розныя...
Ці ў спадобу гэта госці,
калі позныя?

— Лепш пазней завітаць,
чым ніколечкі,
лепш адразу вырваць з ружы
ўсе іголачкі.

## СЛАВАЦКІ МАТЫЎ

Ці ты губіш, ці лечыш
незнямелую смагу?
... Звечарэлыя плечы —
два падкрылкі для ўзмаху...
Так і будзе ў паміне,
як славянскае веча,—
карацейшы за міні
недаслуханы вечар,
і гранітнага злітка
краса навісная,
і чароўная Лідка,
што выйшла з Дуная.

## З ПАДАРОЖЖА ПА ЧЭХІІ

Заінелая Прага ў прадвесняй імжы,
колькі знала гасцей — і высокіх,
і дзіўных!
Я прыйшоў пад гарачыя вітражы —
і яны растапілі ільдзіны.
Веру ў славу тваю,
                    веру ў слова тваё...
Будзь заўжды на маім далягглядзе:
я з далёкіх,
я з блізкіх,
я з родных краёў —
                              твой суседзе,
                              твой дружа,
                              твой браце...

## 3
## ПАД МЛЕЧНЫМ ШЛЯХАМ

ШЛЯХ МАІХ ПРОДКАЎ — Н А Д НОЧЧУ МАЁЙ ВАРТОЎНАЙ. СЛУХАЮ ВЕЙКАМІ, ВУСНАМІ. ВЯКІ ПАЗНАЮ НАВОБМАЦАК: ПРАГА РАСКОШНАЯ УЧОРА ЗБІРАЛА ГАТОУНА У ДАРОГУ ДАЛЁКУЮ ДЗІЎНАГА ГОСЦЯ ПОЛАЦКАГА.
УДУМНА РЫПЕЛІ ВАЗЫ, УГІНАЮЧЫ ЗЕМЛІ ЕЎРОПЫ, І ПАДПАДАЛІ ПАД КОЛЫ ВЯЧЭРНІЯ ЦЕНІ І ЗОЛАКІ. З ПРАГІ СКАРЫНА ВЯРТАЎСЯ ДАДОМУ ТАРОПКА З ПАКЛАЖАЙ, КАШТОЎНЕЙШАЙ АД КУПЕЦКАГА ЗОЛАТА.
КНІГІ ЯГО ПЕРАПІСВАЦЬ БУДУЦЬ, НІШЧЫЦЬ...
ВЕЛІЧАЦЬ ЯГО БУДУЦЬ ЧУЖЫЯ, АБРАЖАЦЬ СУРОДЗІЧЫ...
...НА СТАРАМЕСЦКАЙ ПЛОШЧЫ ПЕЎНІК СТАГОДДЗІ КЛІЧА, ВЕЧНАЕ СОНЦА З ГЕРБА СКАРЫНЫ ВЫВОДЗЯЧЫ.
ЗАЦІХЛА РЫПЕННЕ, ШОРГАТЫ ВОКЛАДАК КНІЖНЫХ. З НОЧЫ ВАРТОЎНАЙ, ЗОРКІ, ЯК ТРАПІЦЬ ДАХАТЫ МНЕ?
У СУТАРЭННІ РАНІШНІХ ПРОМНЯЎ УВІШНЫХ ДАРОГУ ВЯРТАННЯ ШЛЯХ МАІХ ПРОДКАЎ НАГАДВАЕ.

## РАНІЦА

Дарога, неба светацені,
узвівы залатых карон
і ноты чорныя варон
з мелодыі асенняй —
дні адпачынку прывіталі.
Каб роднасці не загубіць,
каб ведаць, верыць і любіць, —
кранаюся я ў тыя далі,
дзе не карэннямі, а снамі
я прыяднаны да сям'і,
да яснавокае зямлі...
Дзе і не хваляцца сынамі,
а помняць вобразы іх, дзеі
дзеля сваіх, дзеля чужых...
Сваю зямлю адчуў на слых:
з камля да кроны — ўся ў надзеі.

## ПОЛУДЗЕНЬ

Дні адпачынку — памяць волі.
І можна ў спешлівым жыцці
удумна, важліва прайсці
ў шчаджоным усё больш прыволлі;
у першасным з'явіцца званні
да спаконвечнасці сваёй,
ужо забытай за гайнёй
на самым першым паляванні.
Таму і вабіць кліч прыроды
да прыяднання, да зліцця
майго — кароткага — жыцця
з адвечным чалавечым родам.
Крывінка, што нясе бяссмерце,
ужо бунтуе, паўстае:
аглухнуць, здрадзіць не дае
сабе і ўсім на гэтым свеце.

## ВЕЧАР

На сонцазахадзе гусціцца.
Прымружаны, замгнёны горб
упёрся ў прысмерк хмарных гор.
Ні мне, ні вечару не спіцца.
Зашэрхлыя засцілы ночы
усё сутонлівей, бліжэй...
Мой лес дыханне беражэ.
Папоцемку іду, ахвочы.
Радарам чуйным, асцярожным
над шапатліваю вадой
і над звінюткай чарнатой
узняўся месяц спадарожны.
Такое рэдкае надвор'е!
Збліжэнне ночы і агня...
І прарастае вышыня
праз невядомае нагор'е.

**ПАД ЗОРКАЙ...**

**І. Скарыны**

Во гэтаксама як дзічына,
якая падрастае ўжо,
а прызнае сваё лаўжо;
як птушка, што з-пад аблачыны
палі-разлогі аглядае
і ведае сваё гняздо
ў траве высокай і густой;
як рыба — ў касяку гуляе,
хоць і ля берага чужога,
а чуе схоўныя віры;
як пчолы — ў полі да пары,
а ворага ля іх парога,
вулей баронячы, зваюють...—
таксама й людзі: да зямлі,
дзе ўзгадаваныя, адкуль пайшлі —
любоў вялікую гадуюць.

**2. Лёсу**

І на сцягу маім узлётным
гарацъ надзея і любоў,^
як над гушчэчаю дубоў
зары світальнае палотны.
Ля дрэўка вытканыя ўзоры,
і ён, мой горды, чэсны сцяг,
так неабходны для жыцця,
як бой і праўда, хлеб і зоры..
У будучыню ён праводца
да запаветных тых падзей,
калі ў кожнага з людзей
у сэрцы затрапеча сонца.
І знаю: сцяг мой — гэта званне
майго імя, майго кахання,
майго жыцця, маёй вясны,
цяперашчыны й даўніны.

**3. Пераемнасці**

Зямля, дзе Ноўгарад і Кіеў
сваю аспрэчвалі любоў,

не мела ні арлоў, ні львоў...
Адно гулі бары глухія.
І толькі Грунвальд выдаў коней
на гербы слаўным гарадам...
А я табе што перадам,
ці перапраўлю мо ў вагоне?
Адну галінку ў гоман пушчы,
адну расінку для азёр,
адну скрыначку для зор,
адну хвілінку ў дзень відушчы?
А будзеш ты — і я не згіну.
Я — між народаў-дружбакоў.
Наш новы чысленнік вякоў
перадаю сягоння сыну.

**4. Роднасці**
Там, дзе зязюлі кукавалі,
там Русь гусцела і расла...
І з трыадзінага крыла
ў славянскія імчала далі.
Яна сталела і мужнела,
пакуль з прызамкавых муроў
першабыцця злівала кроў
ў забойствы, пасваркі і цэлі...
На трох братоў — зямлі тры долі,
тры долі каласістых слоў...
Былі мы разам, разам — зноў,
як тры асілкі на раздоллі.
Дык будзь жа, Русь, вялікай тайнай
супольных ніў, супольных дзей!
Паходзім з рускіх мы людзей —
мы ў еднасці і дружбе даўняй!

**5. Успомнення**
Масква спаважна муравала
і моц, і зверхнасць вечных сцен.
Таўром: няволі, цемнаце —
з Русі Расія паўставала.
І несці цяжкі крыж прыйшлося
і крывічу, і літвіну:
плячо сваё, сваю спіну

намуляць продкам давялося.
Ішлі — рабы і майстравыя,
манашскі сан, цароўны чын...
Давайце лепей памаўчым,
чыя больш выцерпела шыя.
Вякі судзіць — папрок няўдалы.
Хай бачаць людзі на зямлі:
адно ў адно мы прараслі,
як ў дыфузіі металы.

**6. Каліноўскага**
— Рабі не хутка, не паказна.
Затое шчыра, проста. Так,
як б'ецца сэрца. Лепшы знак!
Бяспэўнасць працы—толькі ў блазна.
Суддзёй мне будзе мой Пародзе.
Застогнуць грудзі. Белькі жаль
сысці заўчасна са скрыжаль.
Ім іржавець пры непагодзе,
а мне за праўду, сцяг свабоды
пятлёю сцерці чорны пот:
каб і суседскі, й мой народ
жыў без уціску доўгі годы.
Хай не чапляецца зараза
да нашых чыстых, мужных рук.
Таму й крычу, пакуль не ўмру:
ідзём, браты, да працы разам!

**7. Герояў**
Мая адведная дарога —
аплаўленага Брэста стынь,
нявыдыхнутая Хатынь
ля звоннага яе парога,
балюча-светлыя імёны,
іх вобразы ў жывых вачах...
І гэта на маіх плячах —
надзеі, подзвігі, праклёны.
Такі быў крыж твайго распяцця,
народзе, што ніхто б другі
не знёс пякельныя кругі
і не паўстаў бы над пракляццем...

Дык што ж такое сіла духу?
І перамогі даўкі дым?
Не ўсім зямелька стала пухам.
І сёння — лёгкаю — не ўсім.

**8. Памяці**
Вітаю мілае Задзвінне —
яшчэ не выспяваны край!
Вякі жыцця перабірай,
а толькі, можа, у дамавіне
спасцігнеш, як гэта прыйшлося:
тварылі песні — звычай, суд,
і межавалі паласу
людское добрасці і злосці...
І правіць працу прывучалі,
каб на турботны цэлы год
святыняй быў бы карагод,
а не царкоўнае прычалле.
І покуль рана на Івана
іграе сонца над зямлёй,—
з крыніцы піцьму, што з вадой
жывой, якая гоіць раны.

**9. Адданасці**
Чытаю сёння я ў газеце
пра землі, гарады, людзей...
Імя — у птушкі ў чарадзе,
у кожнай песні на бяседзе,
у ветра, што прыносіць хмары,
у промніка ў густым бары.
Імя — у госця на двары,
у славы, ў подзвіга і мары.
Мы знаем, хто быў здраднік, вораг,
а хто — салдат, хто партызан.
Хто паміраў, як і ад ран,
ад адзіноты, суму, гора...
А як назваць людзей без роду,
без бацькаўшчыны, даўніны?
Не надаюць імя яны
ані зямлі, ані народу.

**10. Пад вартоўнай зоркай**

Калі аберагаць прыроду,—
звяр'ё, і птушак, і людзей
не раздзяляць на сем радзей:
усім жывым — адну нагоду.
І зберагчы адзінства гэта
ад лютасці — наш запавет:
каб не распалася ад бед
ацежалелая планета.
А наш радар — трывожны звон,
звон папярэджання, даверу...
Таму я ў кожны дзень так веру,
што не апошнім будзе ён.
Аберагаю, зберагаю
Айчыну, мову, песню, лёс —
усё, што долі век прынёс,
напоўненую з берагамі.

## ВЯРТАННЕ СВЕТУ

З абліскавічанага неба —
сяйво пазалацелі зор.
Празрысцее начы прастор.
Відзежа промняў — нібы з герба.
Ірдзянае мігценне ўсходу
пяшчотна будзіць нечы сон,
апошніх навальніц азон
ідзе на свежую пагоду.
Як выдае зару дзянніца,—
выношу сэрца на відно...
У сонца — дзень, ў мяне — яно
з адным заданнем: біцца, біцца,
каб зверыць пульс яго я мог
на пульс усіх маіх дарог.
Мяне прыміце, Дзень і Праца:
я верны клятве — не стамляцца!

## ДАРОГА Ў ЗОЛАК ВОСЕНІ

На Млечны Шлях—дарогу продкаў—
гляджу з нізіны сноў густых.
Цярністы след. Гаротны ўздых.
Экран звячэлых дамалоткаў...
І там, дзе годы нетаропка
складаюць нашы справы ў рад,
ужо за россыпам зярнят
мая праглядваецца кропка,
І мне масціць дарогу тую.
І стане — шляху на працяг —
іскрынка труднага жыцця,
якую з любасцю гадую.
Таму са справаю любою
мне ўсё грамчэе з ходам лет
рэвалюцыйны запавет:
тварыць з надзеяй і любоўю.

# 4
# У ВОДГАЛАС СЛАЎНАГА КРАЮ НАДДЗВІНСКАГА

НЯМА ЛЕПШАЙ ЯГО ДАЧКІ, ЯК У ЛЕСЕ БРУСНІЧАНКІ. НЯМА ЛЕПШАЙ ГАСЦІНАЧКІ, ЯК У РОДНАЙ МАТУЛІЧКІ. ЯК МАТУЛІЧКА ПАМРЭЦЬ, ДЗЕ ГАСЦІНАЧКУ МЕЦЬ? ЗАРАСТУЦЬ УСЕ СЦЕЖАЧКІ, ЗАРАСТУЦЬ ДАРОЖАЧКІ… А ЧЫМ ЖА ЦЕРАБІЦЬ БУДУ? ДЫ ЦІ РАННЯЙ РАСОЮ, ДЫ ЦІ ПОЗНЯЙ СЛЯЗОЮ?..

## ВЯСНА-КРАСНА

А я бліжэй да людзей гарнуся.
Таму й вярнуўся.
Песні слухаю пры чарцы нядзельнай
аб долі надзейнай.
І як гавораць —
паслухаць люблю:
стаю і ўрастаю ў зямлю —
ідзе бярозавік ува мне папоцемку,
сплываюць крыгі,
распускаюцца коцікі...
І хваля гукае,
пытаецца з-пад вясла:
— Вясна-красна, што яшчэ прынясла?
— Ой, то-то, па коніку,
па вараненькім,
то-то, па сядзельцу,
па залаценькім...

Значыць, пара мне
са свайго двара.
Гэй, коню,
не глядзі на поўню!
Прыгніся, гара!
Хмара, развейся —
каб і здалёку было мне чутно
пра віно зеляно...
Жыві, мая песня!

* * *

Ты прыбудзь да Беларусі
на агледзіны...
Дзе паляны затравелыя,
імшыстыя —
не ўсе гусі, не ўсе гусі,—
ёсць і лебедзі...
Не ўсе белы, не ўсе белы,—
ёсць і шызыя.
У дарогу — удалосці
аж да столічка...
Не ўсе госці, не ўсе госці,
дзе сватоўечка.

## СПЕЛЫ ЛІПЕНЬ

Замест сустрэчы — навальніца,
заместа слоў — і гром, і град...
І мне няма дзе прытуліцца,
а прытуліцца быў бы рад.

Таму і ехаў я з-за свету,
пераплываў сваю Дзвіну,
каб адшукаць сваю сасну,
застацца верным запавету.

Пранёсся лівень вастрадзюбы,
напяў вясёлчыны гужы...
Зноў ажывае слова любы.
Я не чужы тут, не чужы!

О, ласка слова, ласка бору,
рука — маленькае вясло...
Пяшчоты ліўневае мора
зноў праз душу мне праплыло.

Перацярплю тваё расстанне.
Да новых выраяў, сасна!
...Каб зноў маланка — як каханне.
Каб зноў дарога — як Дзвіна.

## ПОЎНЯ ДОЛІ

Калі ўжо схаваецца сонца,
запальваецца аконца.
Вечар ідзе па двары.
Звоняць у поўню бары.

Як жа табе жывецца,
авечарэлае сэрца?
Вечнай будуць тугой
балоты... Блакадны бой...

Імёны людзей чытае
радаўніца.
І знае
колькі год па вайне!

Поўня бабулінай долі
звініць у блакітнай столі.
...І выйдзе радня
у сне.

## У ЛАСКУ СЛОВА

Не сні, матуля, благія сны:
няма бяды, як няма вайны.
Я спадзяюся з крутых дарог
шчасліва трапіць на твой парог,
у ласку слова, звон белізны...
Не сні, матуля, благія сны!
Развей,
ацісні іх у раллі —
каб жоўтым цветам і не цвілі.

## ГУКАЮ ВЯСНУ

Павярнулася сонца на лета,
а зіма — на мароз...
Павярнулася кветка да шыбы.
А жульвіца — пад сіверам —
павярнула настылае голле
у кірунку чаканнага выраю.
І памкнулася сэрца маё
напярэймы адчайнаму слову:
ой, гукае, гукае вясну
нездаўнелая песня Прыдзвіння...
І прыпомніў, як гэта я сам
тры сады гарадзіў,
тры садочкі,
ажно тры пасадзіў я там зёлкі...
Адна зёлачка — рута-мята,
і чырвоная ружа — другая,
ну а трэцяя выйшла — крапівінка...

Толькі я павярнуся —
як ізноў укалюся.

## **КРЫЛЫ ЛЕТА**

Апалі крылы лета на восені лаўжо.
Як лета непрыкметна прайшло...
Няўжо?
Сухімі лабякамі крычы ці не крычы,
а шорсткімі рукамі прапажа па плячы:
«Няўжо ты памыліўся?
Ты ж лета так чакаў!»

А час вадой праліўся —
як у пусты рукаў...

* * *

...Але што запомніцца
на марозы —
або чарка поўніцай,
або слёзы?
Сена пад настольнікам
на каляды?
Ці аўтобус стомлены,
луб каляны?
Усё запаміналася
як ва ўсмеху...
А зіме чакалася —
снегу,
снегу...

## СПЕЕ ВЕЧАР

Як пайду я на даліну
салаўя ўсцішаці:
позна, позна мне дзяўчыну
тую ўспамінаці.

Бо яе ўжо не прывечу
і на год разочак:
спее ў кожнага свой вечар
і свой каласочак,

А на той даліне весняй
як даўней — чароўна...
Салаўі ўсё з той жа песняй
падаюць з чаромух.

І дзяўбуць расу густую
сцежыной імшыстай,
і дзяўчыну кліча тую
салавейка шызы.

Салавейку ж маё сэрца
усцішаць — не воля.
Хто кахаў, той адзавецца
і з глухога поля.

## ПРОЦІ НОЧЫ

У ноч такую не выходзіць звер,
калі яшчэ жыве ён у дуброве
у сённяшняй прыроды напавер.

Яму цяпер баяцца ўжо ўдвая,
бо меньшаюць яго закон і сіла,
дзе сіла і дзе ўлада ўжо мая.

Мне сытна, цёпла, светла мне цяпер...
А ты не спі, далёкі дзікі звер,—
і проці ночы сам сабе не вер.

## НА ГАРЭЛЫМ БАЛОЦЕ

На гарэлым на балоце — ўзвейная гульня.
Хто там ходзіць (падглядзець бы!).
Мала каму дня...
...Як у цёплыя палаці пададуцца ўсе,
ён, Гарэлік, на балоце ланцугі грызе.
Чорту чорнаму не дзіва — робіць і ў нядзелю.
Ён па рожкі закруціўся ў снежную кудзелю.
Во ўжо непагадзь у свеце, надвор'е ліхое!
Заблудзіцца б...
Ды напомню лепш я пра другое:
як Дзвіна сплывала ў вечар,
як песні шчырэлі,
як гарэлі па-над рэчкай зоры.
Як гарэлі!
А дарогі — выспявалі, на ростані звалі:
гэта ж вы, лугі і ночы, сум узгадавалі.
Добра, што і так было ўсё ды па той расе...
Зараз чорт на тым балоце ланцугі грызе.

## А ЗА ГОРКАЙ

*Цераз бор — перабор баяна:*
*збірае кагорту.*
*А за горкай:*
*— Піва п'яна, піва п'яна,*
*гарэліца горка...*

Не злучаюцца песні, ходзяць асобна...
...На ўдовіных сотках бульба сопкая.
А ў горадзе дзеткі жывуць слава богу.
Пайшлі ўжо ўнукі. «Мо й на падмогу...»
Яе не адклічуць ад вугла старога:
«Эт, перабудуся. І жыць нямнога...»
А калі на пасёлку спраўляюць радзіны,—
ад песні-вясёлкі ірдзяцца ільдзіны;
і кума ўспрэла, раздаецца звонка:
— Ой, жа, людцы: разбудрэла
франтавога жонка!

«Піва п'яна, піва п'яна,
гарэліца горка».

## НА ЎСПОМНЕНЫ

Аблачынаю поўня прытушана.
Зрасянеў, супакоіўся парк.
Вось чабор — палажы пад падушку:
хай прысніцца пахучы папар.

...Як нам быць? А сустрэнемся потым?
Можа, я па лугах небыццця
адыду, як цыбаты бацян,
што прапіў свае новыя боты.

Пасівее палын ля ракі,
задзічэюць далёкія гумны,
на скрыпучыя палавікі
ступіць восень — счужэла і сумна...

**ЗАМОВА**

Ноч прыбывае.
Навокал —
сутонне ценяў перамёрлых дзён.
І толькі дзесьці далёка
нырцуе ў густыя хвалі
вузкім носам бліскучая лодка.

— Маладзік малады!
Твой ражок залаты
даў бог табе на пастаянне,
а мне — на дарогу.
Табе з золата карона,
а мне шчасце і здароўе.

## А НА КІМ КАНЧАЕЦЦА

«Толькі б не адчаяцца, ночка залявая...»
А на кім канчаецца, той і далівае!
Наліваюць поўніцай, чарачку — укоптур:
— Будзе табе помніцца, як нальем за кофту!
— Мне даўно складковая горка надаела.
Дзе там пляшка новая? А ну, стаўце смела!

Прылягла ды ўдовіна сцежка палявая:
«А на кім канчаецца, той і далівае».

## СЁМАЯ ДОЛЯ

— А твой муж, мая сястрыца,
(я ж праўду казала!) —
заглядае да ўдавіцы
на гарэлку й сала...

— Не крыўдую, Галубіца.
Ты й свайму дай волю:
ёсць і мужу ва ўдавіцы
ды сёмая доля.

## ВЕРАСНЮ

І зноў — дарогі паясок.
І зноў — імчуся краем.
Хоць невысок наш верасок,
а неба падпірае.

Сівеюць палыны палян.
Ды без суніц — не тое!..
Тапырыць смуглая зямля
іржэўе залатое.

І на маліnніку глухім
зноў павуціна тчэцца.
Але чаму ж дзяньком такім
не захмурэе сэрца?!

Свіціцца белы паясок —
тумана след замгнёнnы...
Хоць невысок наш верасок,
але заўжды зялёны.

# 5
# ГАЛАСЫ З-ПАД КАРЭННЯЎ ТРАВЫ

СТАЯЛА СПЕЛАЯ ХАРОШАЯ ВОСЕНЬ... ТАДЫ Й НАРАДЗІЎСЯ БЕЛЫ ВЕРШ У ЦЕМНУЮ-ЦЁМНУЮ НОЧ. НАПЭЎНА, НА АПАЛАЙ КЛЯНОВАЙ ЛАЦІНЦЫ ЯГО НАПІСАЎ НЕЙКІ ЖОРАЎ З БЕЛЫМІ-БЕЛЫМІ КРЫЛАМІ. АХ, ГЭТЫ ЖОРАЎ... ЁН ТОЛЬКІ «КУРЛЫ-КУРЛЫ» МОЖА СКЛАСЦІ У РЫФМУ...

* * *

Ад першай заэубрыны на камяні —
песня пайшла.
Ад першага ляда ў разнетраных пушчах —
рэха пайшло.
Ад першай падзякі за выбавенне —
слёзы пайшлі...

Так і жывуць яны з нашымі сэрцамі,
з нашымі годамі доўжацца.
Бо як гэта вылушчыць чалавека
з песні ягонай,
клічу ягонага,
вечнай улады братэрства?

**У АКОЛЛІ КРУГОЎ**

Якой была звонкаю тая сасна
ля першае нашай сустрэчы!

А сёння так цяжка яе адшукаць,
успомніць затоены адрас:
«Ля першае нашай сустрэчы».
Здаецца, знайсці можна ў стромкіх лясах
з такімі ж прыкметамі песню.
А толькі, калі падыходжу
ўсё бліжай да н а ш а г а бору,
дзе гонкая, гулкая т а я сасна
ля першае нашай сустрэчы,—
трывожыцца, тахкае сэрца...

Значыць, тут, недалёка,
ў аколлі кругоў гадавых,
прытуляліся нашыя вусны
да вечназялёнае кроны надзеі.

## ПОЛЮС НОЧЫ

Дванаццаць б'е. Чарнее полюс ночы.
І зноўку — цішыня: ні слова, ні дыхання.
Тваё, зіма, маўчанне — як сцярпець?
Прышлі мне госця ў светлы-светлы сум.
Прышлі хоць снег:
                    апоўначы змяняецца надвор'е.
Хай свежы снег ідзе павольна, роўна,
і вее вышынёю неба.
Як будзе светла раніцою людзям,
якія нават і не будуць ведаць^
што гэта я для іх так папрасіў.

* * *

Расцвітае імгненна толькі ўсмешка —
кветка кахання:
пераймаюць вусны — вусце ласкавых слоў
вясны пазыўныя...
І толькі вочы — радовішча радасці —
яшчэ спрабуюць, што тыя кнігаўкі,
адвесці бяду з-пад маёй нерашучасці.

**САМАЯ КАРОТКАЯ НОЧ!**

А калі чакаць, пакуль спыніцца рупны дождж
(і з кожнага ліповага вехціка змыюцца
непрыстойныя тратуарныя размовы),
а потым ісці па вуліцы
на развітанне з Чэрвенем
і суравець, калі ўбачыш удалечыні
як пульсуе Вечнае полымя…
І глядзець, і глядзець у прадонне ночы
(куды адыходзяць хвіліны твайго жыцця),
і ўбіраць у сябе кожную праточыну
шэрага,
                    бялёсага,
                                        фіялетавага,
падчырвоненага святла…
А ноч доўга-доўга не выпускае світання
з-за вяршалін далёкіх бароў,
з-за муроў горада…
І гэта ў самую кароткую ноч?

## РАСЛІННАЕ ПЛЕМЯ ЗЯМЛІ

Дрэвы і травы,
раслiннае племя зямлі,
раскашавалі карэнне.
Да ўзыходнага сонца цягнуцца.
І паварочваецца Зямля
з-пад сіняга золаку —
у рупную раніцу...
Так вось і кружыцца наша планета.
Ці не гэтак, сынок мой,
уся надзея —
цягнецца,
цягнецца з матчыных рук...
І паварочваецца,
паварочваецца Мацярык народа,
месца пад сонцам трымаючы.

## СЫН ЯРЫЛЫ

Мой добры хлеб,
сын вечнага Ярылы!
Да крошыны я берагу цябе.
Калі настольнік цяжка прыцiскаеш,
калі ў жытле духмянасцю сваёй
густога жыта ты ўзнаўляеш волю,—
настойлiва прыпамiнаеш мне,
што гэта я ў нясплочанай навiне
перад зямлёй, дажджамi i вятрамi,
перад свяшчэннай светласцю людзей
з непераводным званнем хлебароба.

## ВЕЧНАГА ШЭСЦЯ

Калі напішу адно толькі слова «сёння»,—
я раскажу пра лета,
што жыве між блакітам неба
і блакітам крыніц...

Калі напішу адно толькі слова «заўтра»,—
я раскажу пра сустрэчы сяброў
з гарачаю думкай і прагай да працы...
Калі напішу толькі слова «заўсёды»,—

я раскажу пра любоў сваю,
якая не ўтрымалася ў сэрцы —
і знаходзіцца зараз дзесьці
між Задзвіннем і лугамі дняпроўскімі,
ля Брэсцкай крэпасці
і каля суражскіх абеліскаў...
Мо сустрэнецца хто-небудзь з ёю —
маёй любоўю,—
пажадайце ёй вечнага шэсця.

## НАСТЫЛЫЯ ПРЫЧАЛЫ

Адплываюць у мора мужныя рыбакі.
І калі толькі вёслы вяртаюцца
на счужэлы пясок,—
нямеюць ад болю жанчыны.
І ўдовы маякамі становяцца...
Не клічуць на свой агонь,
а толькі нагадваюць ДЗЕ,—
настылыя ў штормах прычалы.

## НА РЫЖСКІМ УЗМОР'І

Памкнуліся бацькі ды ў белы свет.
Ля мора белагрывага аселі.
І Латвія зялёная ўвабрала
яшчэ адных з Балткрэвіі[2] суседзяў.
«O, loti labi! Es runaju krieviski!»[3]
Па-крэвіскі? Па-крыўскаму? Выдатна!
Усе славяне, што на ўсход ад Дзвінска,
прычашы да лагоднай гэтай мовы.
Па-крэўнаму і любяць і завуць у госці...
І ў нашай хаце — стольная бяседа.
І мова латышоў —
ну быццам цераз дзюны перабег
і слухаеш ля саменькага мора,
як хвалі Балтыкі злагоднена, мілоўна
ў бурштынавы прыбой
звіваюць вецер сосен...
І во ўжо паважаная латгалка
запела песню даўніны сваёй.
О, Крывія! Матулечка мая!
Мы ўсе спявалі песню той латгалкі,
па-крыўскаму, па-крывічанску пелі,
па-нашаму...

---

[2] Беларусі (латышск.).
[3] «О, вельмі добра! Я размаўляю па-руску» (латышск.).

## ДА САМАЙ РАНІЦЫ

Сонца за лесам, а поўня — за воблакам.
Нават знакі прыпынку адпачываюць.
Толькі чыесьці воклічы
пранесліся каля мяне
па асфальтаванай вуліцы.
І маё шматкроп'е стаілася ля мяне.
Да самай раніцы мы чакаем,
пакуль пошта не прывязе
у адказ на маё пісьмо з вялікім
пакорлівым пытальнікам
яе
ласкавы і шчабятлівы клічнік.

* * *

А мае вечаровыя цені
скрыпучымі вузлякамі
заблытаны, перакручаны
з суставамі карэнняў
і рэбрамі дрэў...
І я гарую:
«Мілая мая, далёкая!
Начамі і днямі,
што крылламі, я махаю».
Ты ж бліжэеш,
                    бліжэеш,
                              бліжэеш.
І чуваць мне здалёк:
(к) (а) (х) (а) (ю)...

**ПАЛОСКА ВЕЧАРА**

ЗАСТАНЬСЯ!
Я выведу з пакоя ўсё,
што можа цябе пакрыўдзіць.
ЗАСТАНЬСЯ!
З табою будзе ціха маўчаць
толькі ласка мая,
толькі ласка.
ЗАСТАНЬСЯ!
На ўсе мае дні і ночы,
якія ў бяседзе з табою
затояць і крыўды, і сварьы,
што могуць ВАКОЛ НАС успыхнуць.
ЗАСТАНЬСЯ!
І хай МІЖ НАМІ
назаўсёды будзе гэтая
лагодная палоска вечара,
ускінутая на позіркі
нашых вачэй.

* * *

Твой вечар сустрэў .мяне ля пераезда,
зоры твае паказалі сцяжыну,
а салаўі расказалі мне пра цябе.
Золак выпусціў росы на нашы сляды,
а іх зацярушыла чаромха...
І толькі як сонца тваё ўзыходзіла
па жаўруковых лесвіцах,
счуў я тваю нязгоду —
на доўгія годы ўспомнення:
аж пакуль не паўторыць — усё —
вясна
з першай нашай сустрэчы.

* * *

І чарствее душа —
акрайцам хлеба
на стале недагледжаным.

## НА СОН

На сон прачытаю словы твайго ліста,
каб і мой дамавік маркотны,
які стаіўся
ў шчылінцы на падаконніку
і глядзіць у счарнелую ноч,—
пачуў бы іх...

## ПРЫХОДЗІЦЬ ВЕРШ..

А сцены ў прысмерку,
і замаразь на вокнах.
І стол, накрыты думкаю маёй,
локцямі адчаю ўціснуты ў падлогу.
А за малюнкам шэрані на шыбе
узнепагодзілася ўсё зямное…
Прыходзіць верш.

## УСПОМНЕНАЕ ЖЫЦЦЁ

У хмельнай ночы — кароткая памяць.
Гляджу на поўню, як на чарку поўную,
і ўспамінаю.
Што прайшло — таго не было.
Хутчэй прыбягай, раніца!
А там — праца. Дзень перакуліцца
дагары коламі,
і мы спачнём, дарогаю стомленыя,
на беркаўцу лугавога сена...
І будзеш ты зноў салодкім,
успомненае жыццё.

## НА ЛОВЫ СОНЦА

Ранішнія гарады
папраўляюць гальштукі і спаднічкі,
каву, растваральную без асадку, глытаюць.
І выпраўляюць сваіх гараджан гарады
                                        на ловы сонца.
Тралейбус аберуч трымаецца
                                        за ток высокай напругі,
і гараджанне — аберуч —
                                        за парэнчы тралейбуса.
Усе едуць у будучыню.
І раствараецца дзень
                              на гадзіны, хвіліны, імгненні.
І з сумнага асадку яго незваротнасці
зачынаецца ноч.

* * *

Такое я і не скажу ніколі,
што быццам ужо заўтра
нашым дзецям
для паразумення
вельмі будзе шкодзіць
гаворка задумёная бароў,
і ўсплёск рачулкі,
і азёрны шэпт,
і ціхі подых ветру над сялом,
і звон перастаялае былінкі,
і песня, што яшчэ прабабкі
па коласу, па жменьцы, па вязьму
неслі на супольныя дажынкі.

## КАМЕННЫЯ ЛЕСВІЦЫ

I.
Каменныя лесвіцы!
Жыве ваша сэрца —
у водгуках нашых крокаў,
калі мы бяжым на працу.
Не спяшайцеся,
                    людзі!
Але ж тады
перастане біцца
сэрца
каменных лесвіц.
А мёртвы горад
каму ён —
          такі —
                    патрэбны?

2.
У тым горадзе
          з часу выбуху
на камені
застаўся цень чалавека.
Камень памятае.
Цень памятае,
цень на чалавецтве.
...А колькі ў нашым горадзе
у ціхі дзень
          на каменных лесвіцах
забаўляецца дзяцейі

3.
Вашымі
          крокамі
                    па каменнай
                              лесвіцы
я напішу:
          тук-
                    тук...

## АБ'ЯВЫ

**Хто знайшоў**
хоць асколак рэха
якое разбілася ўчора надвечарам
ля маўклівага лесу
куды пайшла па капусту заечую
тая
што сказала адчайнае
шчымлівае слова

**Мяняю**
свой пакойчык з усімі выгодамі
на зыбку туману
пяколак баравога камля
чалеснікі вогнішча
валацужныя песні
і шчопаць солі
напавер пазычаную

## НЕ ПАКІДАЙ МЯНЕ, ЛЕТА

Пад небам высокім праходзіць блакітнае лета —
па сенакосу, па жніўі,
па лабяках, пералесках.
Ласкавы вецер, з пятроўскай галінкі
паджаўцелы лісток не зрывай:
з дзявочага лета ў бабіна лета
не высылай мне позву.
Не пражыў яшчэ я густыя лагодныя месяцы
(дзе вязьмо правярае
ў кужэльнай кашулі Жыцень),
яшчэ я не ўзважыў усе росы твае і аблокі,
і ўсе песні не выслухаў
і смаку не зведаў тваіх незлічоных пладоў,
не сабраў усе лекі...
Бо калі адлучыць ад жыцця
хоць адну тваю раніцу,
хоць адну жаўруковую песню,
хоць адзін васілёк,
аблачыну над роднай зямлёю,—
гэта значыць: пакрыўдзіць долю маю
чалавечую,
незваротна, нядобра парушыць
мой чалавечы закон.
Ты ніколі, харошае, не пакідай мяне, лета...
Не садзіся на крылы маркотных,
далёкіх выраяў,—
у надзею маю, у шчасце маё,
у апошні мой дзень перайдзі.

## **УСЕ ПЕРАЖЫТАЕ**

Пад цёплымі крыламі птахаў
змяняюцца поры года.
І на крыло жураўлінае
месцяцца нашы надзеі...
Пад цёплымі крыламі птахаў —
усё перажытае:
дзённае і вечаровае,
поўневае і маладзіковае...
З маленствам сябруюць кнігаўкі,
юначыя годы — з жаўранкамі,
а сталаму веку прыходзяцца —
толькі буслы
з іхнім прадаўнім звычаем
знячэўку прыносіць дарункі.

## АЙРЭНЫ

### Крок

Я ад цябе пачуў такое — і гэта быў папрок:
— Ты толькі раз сказаў «кахаю»,
і то як незнарок...
— Мая дзяўчынка дарагая, і гэткі ёсць урок:
сто сцежак пройдзеш — і не дойдзеш,
а трэба толькі крок.

### Неспакой

Ты напісала: «Вельмі мала бываю я з табой.
Не ведаю: благі ці добры,
які характар твой...»
— Мая дзяўчынка дарагая, самому ўнеспакой:
тады даведаешся хто я, як будзеш ты са мной.

**ДАЎНІЯ ПЕРАСЯЛЕНЦЫ**
*(александрыйскі верш)*

Жывяце, працаваць прывучаныя зроду.
Адкуль вы ёсць-пайшлі? Якога вы народу?
Дзе край той, што навек Айчынаю завуць?
Чыё гэта слаўцо сто год не пракаўтнуць?
І толькі на бядзе, ў самотнасці калі,—
згадаюцца (у сне) абшары той зямлі,
дзе сіл больш у раллі, спагады — у людзей...
І паўзабыты спеў распыліцца з грудзей.
І мова, што ў нябыт ніколі не сплыве,
Радзіму вашу, вас па імю назаве.

**ДЗЕНЬ РАЗВІТАННЯ**
*(в і л а н э л а)*

Лета, жнівень, далягляды
і трывожная смуга...
Развітання дзень акляты.

Аглядае вечар ляды.
Шлях мой! Хто ў цябе слуга?
Лета, жнівень, далягляды?

Гонкіх сосен гоман сцяты,
і жывіцаю — туга:
развітання дзень акляты.

Росы буйныя прымяты,
а ў настоеных лугах —
лета, жнівень, далягляды...

Ветразі напята ўзняты,
плынь віровая ў кругах.
Развітання дзень акляты.

Адплываюць у каляды
навальнічная смуга,
лета, жнівень, далягляды...

Развітання дзень акляты.

## ГАЛАСЫ З-ПАД КАРЭННЯЎ ТРАВЫ

*(б л а х і к а л о н )*

Хто там стаў?
Свет
ніц
паў.
Стрэл,
    крык, мох...
Нас хто змог?
Сон, цень, прах...
Ты,
    кат,
        страх:
піў ты кроў,
рыў
    нам
        роў,
рваў нас,
сек,
смерць нёс,
здзек.
Збаў свой збой.
Мы йшлі ў бой,—
каб край
        рос,
знаў
    наш
        лёс...

## НА ЎСЕ ВЯКІ

*(г а ш м а)*

Яшчэ адна вясна яго знайшла!
І вылятаюць салаўі са слоў Забэйды,
і выяўляецца Радзіма з-пад крыла
ашчадных і цярплівых сноў Забэйды.

Трымае сэрца бой, пакуль імчаць вятры,
вятрам жа не зблудзіць, пакуль жывуць сябры:
у сэрцы іх, як у азёры і бары,
ўрастуцца песні салаўёў Забэйды.

На ўсе вякі Зямлі — Радзіме песень жыць!
І будзем нашу памяць варушыць,
і снамі, салаўямі даражыць,
Вянком купальных траў з палёў Забэйды.

## НА БЕЛАЙ! ХВАЛІ

*(трыялет)*

На хвалі белай у заліў
мой лёгкі ветразь залятае,
між маякамі праплывае
на хвалі белай у заліў.
Мая зарнічка залатая,
я сёння для цябе сасніў:
на хвалі белай у заліў
мой лёгкі ветразь залятае.

# 6
# ІШОЎ
# БАЙ...

ІШОЎ БАЙ ПА СЦЯНЕ, ЛАСКАВЫ, ХАРОШЫ. ЁН КУПІЎ
СЁННЯ МНЕ НОВЫЯ ГАЛЁШЫ. НЕ АДНЫ.
А УЗАПАР СЕМ ПАР. ЦЯЖКА БАЮ. БАЮ СПАГАДАЮ:
— ПАМАГУ, КРОША...
А ЁН: - НЕ, ТЫ ХАДЗІЦЬ ЯШЧЭ НЕ МОЖАШ ПА СЦЯНЕ!

## ПРА ЗАЙКУ

— А гэтая рэчка цячэ жвавей,
чым у мінулым годзе!
— З-за рэдкага лесу ўжо нам відней,
чым у мінулым годзе!
— Ды і зайцоў настралялі болей,
чым у мінулым годзе!

Так вось і радаваліся,
і з кожнай вясною — болей,
пакуль рэчка не стала ў ручай,
а буран не павынес шыбы,
і зайка пакуль не знік
нават з букварных старонак.

Тады зноў пачалі паказваць
яго вушатыя цені,
склаўшы пальцы перад экранам,
калі абрывалася кінастужка
пад час сеанса
ў сельскім Доме культуры.

* * *

Пытаецеся, як жыву?
Раблю — з прыцема ў прыцем.
Раблю, што прыйдзе мне ў галаву,
а што ў галаву не прыйдзе?
Скокну я ў ельнік рыбкі злавіць,
набяру на возеры шышак...
А то з ланцугоў дратву віць
бяруся, як часу лішак.
Летам у студні сена сушу,
печку лёдам палю сушоным...
Надойня на стрэхах — я не хлушу —
бульбы набраў кашолку.
А са сваёй двухстволкі зрабіў
дудкі, каб гнаць гарэлку.
Дык вось, што раней я паўлітра піў,
літру цяпер — як у грэлку.
Бывае, што некалі адпачыць
ад непрасыпу: ахвота ж...
А палец аб палец ударыш — баліць!
Таксама кажуць — работа!

**ПРА САД**

Напэўна, так сказаў бы і Саадзі:
— Чужая жонка — яблыня
у садзе!
А ў сад праходзіць трэба асцярожна,
бо вартаўнік ёсць пільны й агароджа.
І калі ты не друг сям'і — якраз
знаходзь заціішны патаемны лаз...

Зямныя як і райскія сады:
чым бліжай восень, тым спялей плады.

## ДЗІВЯЦЦА ЗУБРЫ

Зайшла матрошка
да мяне ў дом.
Туды-сюды павярнулася,
і ўжо не адна —
са сваім харaством!
І круг ля мяне замкнуўся.
А ўсё — з прыспешкай,
і ўсё — з усмешкай,
з нявінным даверам,
з гасцінным намерам...

І дзівяцца, дзівяцца,
дзівяцца зубры:
«Ці ёсць у матрошак зубы?»

**ПРА КОНЕЙ**

Вуліцай падковы цокалі
двух вараных.
Ох, вы, коні мае — сокалы
з песень былых.

Агнявых атак равеснікі,
дзікай крыві.
Ну а сёння вы — рамізнікі:
цуглі не рві.

А якая ў вас тачаначка,
збруя, хамут...
Едзе чалавек пад чарачкай
што яму!

Ён па асфальце коціцца
цэленькі дзень.
Коні вараныя косяцца
на людзей.

## З ПАГАНСКАГА ВЕКУ

Быў бог паганскі, і было дзякло
на гарадзішчы, кожную сям'ю...
Ды некаму з прыслужак прыпякло
пераназваць гаротную зямлю.
Старога бога адмяніў закон,
і богава — лічылася чужым,
хоць гэткая ж даніна на гужы
і на святло сляпусенькіх вакон.
Спаволі перавучвалі народ,
што ўжо рабіў — рабіць наадварот.

...Глядзелі людзі, едучы ляшыць,
як бог паганскі — у кустах ляжыць.

## ПРА ЦАРОВА ГУЛЬБІШЧА

— Вой жа была слаўная,
вой, пара:
пасадзілі ўпобачкі
ля цара.
У застоллі ўтрымлівалі
ночы тры...
Ух, і п'юць, балесныя,
п'юць цары!
Было мёду геннага,
піва — во!
Меру б ды на гульбішча
і пітво...
А тут скрыпкі енчылі,
бубен біў...
Па загаду цараву
хто не піў?
Дзецюкі-саколікі,
гаратно,
піць, калі й не хочацца,
аж у дно.
Ну і зноў пярэбары,
хоць гары...
Па-мужыцку мучыліся
і цары.

## ПРА НАВЕЧАРЭЛЫЯ КАРЦЫ

Першым разам! Добрым часам!
У бяседзе — навіна:
п'ём напоўненую чашу,
дзе ні кропелькі віна.
Салаўіныя п'ём росы...
А ў зялёным вільчаку —
навальнічная пагроза
і зязюльчына «ку-ку».
Наша шчырая сябрына
не затлуміць галавы:
п'ём з карцоў навечарэлых
хмельны водар баравы!

**ПРА МАРАКА**

Мужчына быў — не вецер,
марак, ды не круцель.
Дзве хаты меў на свеце:
барак і карабель.

Мужчына быў не зломак,
мужчына не з цяцер:
з благой жанчынай, злою
і суткі не цярпеў.

Мужчына быў, не пасся...
Мужчына — галава!
Ды й на яго знайшлася
багатая ўдава:

мужчына стаў адразу
і таткам, і дзядком.
Ды аднаго ён разу
сысці хацеў цішком.

Ах, боцман-забіяка —
не разбудзіў свістком...
І зачапіўся якар
глыбока хабатком.

**НАДПІСЫ**

**На дзвярах**
Калі прыйшоў пад дзверы чужаком,—
не стой затоена за вушаком.
Пераступай парог, які ты ёсць.
А там спазнаюць, што гэта за госць.

**На шклянцы**
У стрыманасці ёсць такі рубеж:
чым болей церпіш — меней п'еш,
але калі дабраўся да віна,
то ўжо да саменькага дна.

**На весніцах**
Паспелі яблыкі. Ўваход — налева.
Змей спіць. А бог старэнькі.
ЕВА

**На стрэльбе**
Стралецкая ці знае ўдача,
што ёсць стральба, і ёсць аддача?

## НАБАКІРЫ

**Прыступкі**
Заходзілі — скрыпелі,
выходзілі — хрыпелі.
Заціхлі, калі
па іх паўзлі.

**Лысіна**
Жыццё варушыцца патроху,
і ўсё прыкметней на вяну:
адзін радзіўся — у гароху,
другі, глядзіш,— на лабяку.

**Пятля**
А Зайку шэрага Пятля
пашкадавала апасля:
— Ён мог бы і жывым застацца.
Нашто было так трапятацца?

## ШТО ЗА МОДА

Што за мода
ў бегемота:
не закрые нават рота.
Добра, што ён не рычыць.
Бо ў яго не пашча —
кораб:
аглушыў бы цэлы горад!
І не горла,
а прарэха:
як раўне, то, можа,
рэха —
аж да Нілу даляціць!
Што за мода
ў бегемота:
рот раскрыў,
а сам маўчыць.

КАЛІ ЗУСІМ НЕВЫНОСНА ЧАКАЦЬ — ПРЫХОДЗІЦЬ АДЛІГА. І ЗЯМЛЯ СЛУХАЕ ПРАПАЛІНАМІ ЎЗГОРКАЎ, ШТО ХОЧУЦЬ СКАЗАЦЬ ЁЙ ЛЮДЗІ ЖАУРУКОВЫМІ ГАЛАСАМІ. АЛЕ СТОЛЬКІ ЖАДАННЯЎ У НАС, ШТО ТЫСЯЧЫ ЖАЎРАНКАЎ НЕ ВЫШЧАБЕЧУЦЬ УСІХ, ХОЦЬ ЦЭЛЫМІ ДНЯМІ ВІСЯЦЬ У ТРАПЯТКІМ НЕБЕ НА ТАНЮСЕНЬКІХ ПРАМЕНЬЧЫКАХ СОНЦА.

ПРЫЛЯТАЮЦЬ НА ПОМАЧ КНІГАЎКІ, ШПАКІ, ЛАСТАЎКІ, ЖУРАЎЛІ. АД ШЧЫРЫХ І ХМЕЛЬНЫХ ПЕСЕНЬ У АСАЛАВЕЛАЙ ЗЯМЛІ АЖ ГАЛАВА ЗАКРУЖЫЦЦА. І ЯК ДОЖДЖ — АСЫПАЮЦЦА З ГАЛІН ЧАРОМХАВЫЯ, БЭЗАВЫЯ, ЯЗМІНАВЫЯ ПЯЛЁСТКІ...

І ЧАСТА НЕ УСЁ РАЗУМЕЕ ЗЯМЛЯ: ХТО З НАС І ЧАГО ЖАДАЕ, КАМУ Ж ГЭТА ПАСПАГАДАЦЬ... МНОГІЯ — ТАК І НЕ АЖЭНЯЦЦА, НЕ ВЫЙГРАЮЦЬ У ЛАТАРЭЮ, НЕ УСПОМНЯЦЬ СВАІХ БАЦЬКОЎ, ЗАБУДУЦЦА НА СПРАВЯДЛІВАСЦЬ... А ТУТ ПТАСТВА ЗБІРАЕЦЦА У ВЫРАЙ. АПОШНІ ЖУРАЎЛІНЫ КЛІН ДА НОВАЙ ВЯСНЫ ЗАМЫКАЕ КЛЮЧАМІ ЗЯМЛЮ. І ЧУТНА, ЯК ПТУШКІ СЦІШАНА І ЖУРБОТНА АПРАЎДВАЮЦЦА ПЕРАД ЛЮДЗЬМІ ЗА НОВАЕ ЧАКАННЕ СУСТРЭЧ.

## ЗМЕСТ

***6. Ішоў бай***